ІНТЭРВ'Ю

# Мы з'ядналі аднадумцаў

*У цэнтры Гродна ёсць прыгожы ўтульны дом. Маляўнічая шыльда сведчыць аб тым, што тут месціцца Саюз палякаў на Беларусі. Нядаўна наш карэспандэнт сустрэлася з яго старшынёй **Тадэвушам Тадэвушавічам КРУЧКОЎСКІМ** і папрасіла яго адказаць на некаторыя пытанні.*

**— Пан Тадэвуш, скажыце, калі ласка, колькі ў Беларусі Польскіх дамоў?**

— Шаснаццаць. У Лідзе, Гродне, Барысаве, Баранавічах, Віцебску і многіх іншых гарадах. Налічваецца 150 тэрытарыяльных аддзяленняў нашай арганізацыі, больш за восемдзесят калектываў мастацкай самадзейнасці. У Саюзе палякаў дваццаць дзве тысячы чалавек.

**— Чым займаецца Саюз?**

— Развіццём польскай культуры, адукацыі і асветы на польскай мове, адраджэннем нацыянальных традыцый палякаў.

**— Раскажыце крыху пра адукацыю.**

— У Беларусі з 1948 года да канца 60-х гадоў увогуле не было навучання на польскай мове. Цяпер у Гродне і Ваўкавыску ёсць па адной школе, дзе навучанне вядзецца толькі па-польску. Яны пабудаваны за грошы, якія выдзеліла Польшча. Вядома, там вядзецца вывучэнне беларускай і рускай моваў, гісторыі Беларусі.

Агульнае становішча польскай адукацыі (як і польскай меншасці) на Беларусі палепшылася ў незалежнай Беларусі ў параўнанні з савецкім часам, хаця яшчэ многае трэба зрабіць, каб мець еўрапейскія стандарты падыходу да нацыянальных меншасцей.

Беларуская дзяржава абяцала пабудаваць у Гродне за Нёманам яшчэ адну школу з польскай мовай навучання, бо некаторым дзецям вельмі далёка дабірацца на заняткі, але гэтае абяцанне так і засталося нявыкананым. Некалькі гадоў просім пабудаваць польскую школу ў Воранаўскім раёне, дзе пераважная большасць насельніцтва — палякі (83 працэнты). Цяпер мы гатовы ўзвесці яе на свае сродкі, але на гэта ўлада не дае дазволу. Такім чынам, польскую мову ў Беларусі вывучаюць 15—20 працэнтаў ад той колькасці людзей, якія маглі б вывучаць.

Павінен сказаць, што мы не атрымліваем ад беларускай улады фінансавай дапамогі на ўтрыманне Польскіх дамоў, хаця беларусы, якія жывуць у Польшчы, адчуваюць пэўныя клопаты аб сабе. Мы выдаём газету "Глос з-над Нёмна" і навукова-папулярны часопіс "Магазін Польскі" за свае сродкі. Толькі ў 2001 годзе нам была выдзелена адна тона паперы, якой хапіла на некалькі нумароў.

> **Даведка «Народнай волі»**
>
> **Кручкоўскі Тадэвуш Тадэвушавіч**, 1961 года нараджэння. Кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Аўтар шэрагу навуковых прац аб польска-беларускіх стасунках, гісторыі Польшчы ў рускай і беларускай гістарыяграфіі. Аўтар дзвюх манаграфій.
>
> З 2000 года старшыня Саюза палякаў на Беларусі.

**— Пан Тадэвуш, Вы казалі, што ёсць калектывы мастацкай самадзейнасці...**

— Так, мы кожны год праводзім у розных месцах Беларусі фестывалі польскай песні, выязджаем з канцэртамі ў Польшчу. Самы моцны культурны цэнтр — у Лідзе, дзе працуюць дзесяць мастацкіх калектываў. У мастацкай самадзейнасці ўдзельнічаюць як дарослыя, так і дзеці. У гэтым ёсць вялікая заслуга кіраўніка мясцовага аддзела СПБ Ізабелы Тыркін.

**— Чула, што пры Саюзе палякаў дзейнічае некалькі таварыстваў па прафесійных інтарэсах...**

— Сапраўды, працуюць таварыствы ўрачоў, медыцынскіх сясцёр, ветэранаў Другой сусветнай вайны, навукоўцаў, моладзі, Войска Польскага, салдат Арміі Краёвай, сібіракоў — людзей, якія пакутавалі ў сталінскіх лагерах, і шэраг іншых.

Хачу адзначыць, што наша дзейнасць скіравана не толькі на адраджэнне польскай культуры, але і на развіццё беларускай, бо ў нас вельмі шмат агульнага. І не толькі ў культуры, але і ў свядомасці. Мы 400 гадоў жылі ў адной дзяржаве.

Кожны год праводзім канферэнцыі па праблемах нацыянальнай свядомасці палякаў, гісторыі палякаў на Беларусі, і ўсё, пра што там гаварылася, выдаём асобнай кнігай.

Крыўдна, што нашы Дамы палякаў прыцiскаюць падаткамі, бо, згодна са Статутам, мы не займаемся палітыкай, а Дамы палякаў выконваюць функцыі дамоў культуры і нядзельных школ. І падаткі, як мы лічым, павінны быць такія ж, як і ў дзяржаўных.

Увогуле лічу, што палякі на Беларусі развіццём сваёй культуры ўзбагачаюць і Беларусь, што беларускае грамадства і дзяржаўнасць можна будзе лічыць самастойнымі, калі яны ўбачаць сваю гісторыю (таксама і сувязь з палякамі) сваімі вачамі, а не па старых расійскіх або савецкіх стэрэатыпах. На мой погляд, польская нацыянальная меншасць для Беларусі — гэта шлях праз Польшчу ў аб'яднаную Еўропу. Сваю ролю мы бачым у тым, каб быць пэўным пасрэднікам у польска-беларускіх стасунках, якія, дарэчы, далёкія ад нармальных добрасуседскіх адносін двух такіх блізкіх адзін да другога народаў.

**— А што трэба для таго, каб уступіць у Саюз палякаў на Беларусі?**

— Зусім няшмат: мець польскае паходжанне або быць аматарам польскай культуры. Трэба падаць заяву, растлумачыць прычыну, па якой той ці іншы чалавек хоча быць у Саюзе палякаў. Дарэчы, у нашым Саюзе ёсць не толькі палякі, але і рускія, татары. Мабыць таму, што ім з намі цікава, што кожны знаходзіць для сябе нешта карыснае і патрэбнае.

**— Дзякуй, пан Тадэвуш, за гутарку. Шчыра жадаю Вам здароўя і поспехаў.**

**P.S.** *Перад адыходам я сустрэла ў прыёмнай пажылога чалавека. Ён сказаў, што жыве ў адной з вёсак Гродзенскага раёна і ўжо на працягу доўгага часу знаходзіцца ў Саюзе палякаў. Прыйшоў сюды памяняць фотакартку на пасведчанні. Ён размаўляў на чыстай польскай мове. Я з вялікай павагай глядзела на гэтага чалавека і думала, што ён праз дзесяцігоддзі пранёс вернасць сваёй роднай мове. Не тое, што многія беларусы, якія саромеюцца роднага слова і, дасканала не ведаючы ні сваёй, ні рускай, размаўляюць на недарэчнай "трасянцы".*

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

ПРЭЗЕНТАЦИЯ

# «Миг и Судьба» — книга о личностях

*На днях состоялась презентация книги журналиста Василия Сарычева "Миг и Судьба". В ней около ста очерков о судьбах спортсменов, написанных Василием Сарычевым с 2000-го по 2004 год.*

Таль, Прокопенко, Роднина, Малофеев — легенды мирового спорта. В своей книге Василий Сарычев раскрывает собственное восприятие каждой персоны.

Отправная точка каждой из глав — "говорящий" снимок, зачастую любительский, случайную мимолетность которого режиссирует только жизнь. Предлагаемые очерки и эссе - не просто судьбы кумиров с множеством неизвестных широкому кругу штрихов. Это попытка осмыслить явление спорта в столь специфических социумах, каким был СССР и продолжает оставаться Беларусь. Около ста судеб — ста пронзительных очерков-глав, каждая из которых имеет самостоятельное значение, а все вместе объединены тонким, не торчащим конструкциями замыслом. Автор утверждает, что книга не столько о спорте — она о жизни каждого из нас, лишь преломленной через спортивный материал.

Литературные критики отмечают несомненными достоинствами найденную форму подачи, неповторимость интонации, стилистическое изящество и редкую плотность мысли, дизайнеры — стильность оформления книги.

В результате опроса, проведенного Ассоциацией спортивной прессы, "Миг и судьба" признана лучшим проектом года.

Заказать книгу можно на сайте газеты "Прессболл" — **www.pressball.by.**

## Мірны супраць Наўрацілавай

На адкрытым чэмпіянаце ЗША па тэнісе беларускі тэнісіст Максім Мірны працягвае барацьбу у двух разрадах — парным і міксце. Учора "Народная воля" паведамляла, што ў парным разрадзе Мірны разам з індыйскім спартсменам Махешам Бухпацці выйшлі без гульні ў 1/8 фіналу, дзе сапернікамі беларуска-індыйскай пары будуць іспанцы Рафаэль Надаль і Томі Рабрэда. А вось у міксце Максім Мірны разам з 17-гадовай чэмпіёнкай Уімблдона Марыяй Шарапавай у другім крузе выйгралі ў зімбабвійскага дуэта Кары і Уэйна Блэкаў — 6:3, 7:6. У чвэрцьфінальным паядынку сапернікамі Мірнага і Шарапавай будзе легендарная Марціна Наўрацілава і індыец Леандр Паес.

## Асілкі чакаюць вас

21—22 верасня ў межах міжнароднай выставы "Аўтабелсервіс" (пр-т. Машэрава, 14) адбудзецца міжнародны турнір сілавых атлетаў "Кубак асілкаў СНД і Балтыі. У ім возьмуць удзел асілкі з сямі краін: Польшчы, Расіі, Украіны, Беларусі і краін Балтыі. У праграме спаборніцтваў перацягванне вялікагрузнага аўтамабіля МАЗ, узыманне бервяна вагой у 120 кілаграмаў, узыманне легкавога аўтамабіля "Ніва-Шэўрале" і шмат іншых цікавых конкурсаў. Галоўны суддзя спаборніцтваў — алімпійскі чэмпіён Леанід Жабацінскі. Пачатак — у 16.00 на пляцоўцы каля выставачнага комплексу "БелЭкспа".

## Рындзюк паехаў у Кітай

Футбаліста барысаўскага БАТЭ Мікалая Рындзюка аддалі ў арэнду кітайскай камандзе "Джухай", якая пасля першага круга чэмпіянату Кітая займае другое месца ў другім дывізіёне. Днямі гэты футбаліст падпісаў кантракт з новай камандай да 30 лістапада бягучага года, калі ў Кітаі будзе завяршэнне сезона. Дэбют Мікалая ў "Джунхаі" запланаваны на 11 верасня.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

АНОНС

## Шоу кветак

*Нацыянальны мастацкі музей Беларусі і Беларуская грамадская арганізацыя фларыстаў запрашаюць на шоу кветак, якое адбудзецца ў рамках першага фестывалю беларускай фларыстыкі.*

***10 верасня** з 9 да 22 гадзін* на пляцоўцы перад музеем беларускія фларысты зробяць дзевяць кветкавых дываноў розных памераў.

***11 верасня** ў 12 гадзін* на цэнтральнай пляцоўцы музея адбудзецца ўрачыстае адкрыццё першага фестывалю фларыстыкі. На вачах у публікі фларысты будуць ствараць букеты і кветкавыя кампазіцыі па самых сучасных тэхналогіях. Жадаючыя змогуць набыць любы букет за ўмоўную цану. Сабраныя сродкі паступяць на рахунак Беларускай грамадскай арганізацыі фларыстаў і пойдуць на развіццё беларускай фларыстыкі.

***Першы і кожны соты наведвальнік*** экспазіцыі музея атрымае спецыяльны прыз — бясплатны букет.

У гэты ж дзень *з 12 да 19 гадзін* перад музеем будзе працаваць экспазіцыя кветкавых дываноў. Таксама плануецца выступленне дзіцячых і студэнцкіх музычных калектываў.

***Да 15 верасня*** ў Нацыянальным мастацкім музеі будзе экспанавацца выстава кветкавых кампазіцый ***"Візіі лета"***, прысвечаная 65-годдзю музея.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

## «Умные» телефоны ждут своего часа

Эксперты в области мобильных телефонов предсказывают невиданную популярность моделям, напичканным технологическими инновациями. По мнению исследователей из фирмы In-Stat/MDR, в ближайшие пять лет объем продаж таких "умных" телефонов ("смартфонов") увеличится на 44%.

Надо отметить, что на сегодня, к примеру, в США лишь 9% пользователей мобильных телефонов предпочитают покупать "навороченные" модели.

Некоторые мобильные телефоны по своей многофункциональности уже приближаются к персональным компьютерам. В таких "игрушках" можно найти фотокамеру, возможность подключения к Интернету и обмена электронными сообщениями, видео- и аудиоплеер и многое-многое другое. Однако многие из перечисленных функций недостаточно просты в употреблении, а когда нет постоянной острой необходимости в срочной интернет-связи, то платить за "умную" телефонную трубку втридорога не имеет смысла. Как бы то ни было, но когда соотношение цена-качество придет в верное соответствие, по мнению экспертов, супертехнологичные телефоны найдут массового потребителя.

## Виртуальная рука

Виртуальная рука с основными венами, да к тому же умеющая "чувствовать", поможет обучающимся медсестрам научиться правильно делать уколы. Эта новая трехмерная виртуальная система построена на основе сенсоров и технологии силовой отдачи, применяемых в современных компьютерных играх.

Английские ученые из компании UK Haptics, разработавшие эту виртуальную руку, утверждают, что уже в следующем году она сможет заменить пластиковые тренажеры, на которых медсестры учатся основным навыкам уколов в вену. Обычные способы обучения искусству сбора крови из вен и прокалывания кожи всегда были весьма ограничены. Даже пластиковые тренажеры не дают представления о том, какое давление необходимо прилагать, чтобы проколоть кожу. К тому же, они не очень реалистичны.

Кроме того, пластиковые руки и накладки с венами стоят довольно дорого и не дают возможности научиться работать с разными видами рук, как, например, детскими, старческими или поврежденными, в которых вены труднодоступны.

Новая трехмерная модель легко адаптируется под разные виды рук, так что медсестры смогут хорошо потренироваться, прежде чем делать уколы живым людям.

## Пекин: пожизненное заключение за порно

*Верховный суд Китая ввел пожизненное заключение для особо тяжких преступлений, связанных с порнографией в Интернете.*

Это решение было принято в рамках широкомасштабной государственной кампании по борьбе с порнографией, распространяемой в Интернете и по мобильным телефонам. Для менее серьезных нарушений предусмотрено задержание и установление дальнейшего наблюдения.

Пожизненное заключение предусмотрено для тех, кто распространяет порнографию в Интернете с коммерческими целями. Наказания также предусмотрены для владельцев сервисов, предоставляющих услуги секса по телефону.

## Не выкідвайце прымус на сметнік!

Ва ўзорным стане, як навюткі, паступіў у Віцебскі абласны краязнаўчы музей правобраз сучаснай газавай пліты — прымус, распаўсюджаны награвальны прыбор першай паловы мінулага стагоддзя, якім нават і пазней карысталіся сотні тысяч сем'яў у СССР.

Медны прымус, гэтая, паводле слоў паэта Іосіфа Бродскага, "пярліна камуналак" не выпадкова трапіў у музей і лічыцца яго супрацоўнікамі даволі каштоўным набыткам. Музейшчыкі пачалі рыхтаваць адмысловую выставу прадметаў старадаўняга віцебскага побыту, справядліва спадзеючыся, што яны, многімі ўжо забытыя, выклікаюць цікавасць у моладзі.

Акрамя прымусу, у мясцовых старажылаў удалося знайсці і набыць вугальны прас, падобны на параход, газавыя лямпы і ліхтары, іншыя рэчы, ужо нязвыклыя ў наш час.

Найбольшая частка атрыбутаў будзённага жыцця нашых продкаў знаходзілася ў прыватных калекцыях.

Сярод апошніх паступленняў у музей варта адзначыць перапіску вядомага віцебскага калекцыянера Івана Галькевіча з пісьменнікам Канстанцінам Сіманавым ды іншымі знакамітымі сучаснікамі, жыццё якіх, дарэчы, не абыходзілася без прымусаў і газавых лямп.

З усяго сказанага вынікае, што да любых старых рэчаў трэба ставіцца з павагай, як да магчымых музейных рарытэтаў.

Не варта выкідваць на сметнік прымусы, газавыя лямпы і печкі. Тым больш што яны могуць яшчэ спатрэбіцца, калі Расія пазбавіць нас нафты і газу. Ужо цяпер жыхары Віцебска раз-пораз шукаюць у гаспадарчых магазінах газавыя лямпы і стэарынавыя свечкі, бо раптоўныя і доўгачасовыя адключэнні электрычнай энергіі ў абласным цэнтры здараюцца рэгулярна.

Такім чынам, не выключна, што выстава прадметаў побыту гараджан у першай палове мінулага стагоддзя стане адлюстраваннем і сучаснага нашага побыту...

Не выкідвайце прымусы, браткі-беларусы!

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ЛАМПЫ
ДРЛ, ЛБ, ЛД, ЛБУ, КЛ, КЛУ, ДНАТ, НАКАЛИВАНИЯ ЛОН, Г-500, Г-300, МО
OSRAM, энергосберегающие
ОБОГРЕВА ИКЗ-250; 500
СТАРТЕРЫ
ИЗОЛЕНТА ПВХ, ХБ
ПАТРОНЫ, РШ-ВШ
СВЕТИЛЬНИКИ
ЛСП, ЛПО, ПСХ, НСП, ЛПБ, "Выход", точечные, зеркальные
прожекторы галогеновые
склад рядом с офисом
ОПТ
ООО "Тэмак"
т./ф. (017)214 79 06 т. 214 79 07
услуги посредников оплачиваются

КРЫМІНАЛ

## Не далі сабе «засохнуть»!

"Імідж — нішто! Прага — ўсё!" — сцвярджае папулярны рэкламны ролік. І ён мае рацыю, што пераканаўча даказваюць людзі, для якіх жаданне выпіць з'яўляецца асноўным інстынктам. Такія людзі дзеля наталення прагі дэманструюць незвычайны спрыт і такое разумовае напружанне, да якога далёка нават асобным гросмайстрам шахматнай гульні.

Вось вам прыклад. Старэнькая жыхарка вёскі Стайкі Віцебскага раёна, рыхтуючыся да сёлетняга ўборачнага прыпару, купіла ў краме шэсць бутэлек гарэлкі і прыхавала "вадкую валюту" ў металічнай скрыні-сейфе, які зварыў для яе ў калгаснай майстэрні сваяк-слесар.

Зачыніўшы свой заветны "сейф" на замочак, старая і думаць не хацела пра тое, што яе скарб можа зрабіцца здабычай нядобрых людзей.

І ніхто б да гарэлкі не дабраўся, каб яе гаспадыня сама не падзялілася сваім сакрэтам з адным суседам, вялікім аматарам спіртнога. Той лёгка знайшоў яшчэ дваіх сябрукоў, якія разам з ім рушылі на пошук бабулінай "схованкі". Металічную скрынку знайшлі хутка, балазе яна стаяла ледзь не на вачах, у хляве.

Але як ні біліся п'янтосы, як ні шукалі патрэбны ключ, замок "сейфа" не адчыняўся.

І раптам было знойдзена простае да геніяльнасці рашэнне праблемы. Злодзеі (а як іх яшчэ назваць?) прынеслі эмаліраваны тазік, паставілі яго побач з сейфам, а потым паднялі сейф з гарэлкай і з усяе сілы грымнулі ім аб зямлю, каб ушчэнт разбіць бутэлькі. Пачуўшы звон разбітага шкла, хаўруснікі нахілілі бабуліну скрынку над тазікам і злілі туды гарэлку праз шчыліну ў сейфе. Ну, а далей усё ўжо было проста, бо шклянкі злодзеі мелі пры сабе з самага пачатку "аперацыі". На закусь п'янтосы аблаташылі бабулін гарох, які добра ўрадзіў сёлета ў Стайках.

## Дружыннікі — супраць злодзеяў

У свой час наша газета паведамляла аб адраджэнні добраахвотных народных дружын у Оршы, дзе гэтыя грамадзянскія ахоўныя фарміраванні, створаныя на прамысловых прадпрыемствах, нясуць вахту па абароне матэрыяльных каштоўнасцяў ад несуноў, а прасцей кажучы, — ад злодзеяў, заўжды гатовых узяць тое, што дрэнна ляжыць, і на ахову чаго ў міліцыі не хапае сіл і сродкаў.

Апошнім часам за стварэнне народных дружын на Віцебшчыне актыўна ўзяліся сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, заклапочаныя набегамі злодзеяў на ўраджай. Паспяхова ўкараняе здаўна апрабаваную форму аховы маёмасці закрытае акцыянернае таварыства "Альгоўскае", што побач з Віцебскам. Без намаганняў грамадскасці ў гаспадарцы цяжка абысціся, бо тут вырошчваюцца элітныя, дарагія гатункі бульбы, морквы, буракоў ды іншай гародніны, да якой асабліва ласыя злодзеі.

Пакуль што дружына ў "Альгоўскім" складаецца толькі з 12 чалавек — інжынераў, аграномаў, механізатараў, паляводаў. Але на яе рахунку ўжо немалы вопыт. Летась самадзейныя ахоўнікі затрымалі 60 дробных злодзеяў і заслужылі не толькі словы падзякі, але і матэрыяльнае ўзнагароджанне: кожнаму было выплачана за выніковую працу па 50 тысяч рублёў.

Грашовае стымуляванне дружыннікаў не адменена ў "Альгоўскім" і сёлета, бо без гэтага арганізаваць рэгулярную дзейнасць змагароў з крадзяжом прадукцыі не так лёгка, як уяўляецца ў тэорыі.

Матэрыяльнае заахвочванне дружыннікаў існуе і ў іншых гаспадарках вобласці. У Пастаўскім раёне, да прыкладу, за кожны выхад на дзяжурства дружыннік атрымлівае 7 тысяч рублёў. Згодна са статыстыкай упраўлення прафілактыкі УУС Віцебскага аблвыканкама, на Віцебшчыне прайшлі перарэгістрацыю 396 дружын, у тым ліку 123 — у гарадах. Толькі за ліпень бягучага года дружыннікі выявілі 29 злачынстваў, затрымалі за адміністрацыйныя правапарушэнні больш як тысячу чалавек. На думку кіраўніцтва ўпраўлення ўнутраных спраў аблвыканкама, наспеў час удакладніць і ўдасканаліць заканадаўчыя акты аб правах добраахвотных народных дружын, прадугледзеўшы такія неабходныя моманты, як матэрыяльнае і маральнае стымуляванне дружыннікаў, іх страхаванне і г.д.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

Рекламу
не обязательно доставлять в редакцию, ее
можно
вместе с гарантийным письмом
заказать по факсу:
(017) 206-69-04.

## Руслан Аляхно заняў на конкурсе песні ў Польшчы другое месца

Беларускі выканаўца Руслан Аляхно заняў другое месца на конкурсе песні, які адбыўся ў рамках XIII міжнароднага фестывалю "Мальва-2004" у польскім горадзе Седльцэ. Першае і трэцяе месцы дасталіся прадстаўнікам Польшчы.

У фестывалі ўзялі ўдзел маладыя выканаўцы з Польшчы, Беларусі, Расіі, Украіны і шэрагу іншых краін. У якасці члена журы быў запрошаны папулярны беларускі кампазітар і прадзюсер Генадзь Маркевіч. А беларуская выканаўца Вольга Плотнікава прысутнічала на фестывалі ў якасці госці. Спецыяльна для гэтага мерапрыемства яна пераклала на польскую мову адну са сваіх песень.

Нагадаем, што Руслан Аляхно таксама выйшаў у фінал тэлепраекта "Народны артыст—2", які неўзабаве стартуе на тэлеканале ГНТ.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Падпольны склад

Падпольны склад тканіны замежнай вытворчасці знайшлі супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Кобрынскага РАУС у хляве ў 29-гадовага непрацуючага жыхара вёскі Дзівін. Было яе тут 9 кіламетраў 890 метраў. Аператыўнікі выйшлі на яго пасля таго, як на беларуска-ўкраінскай мяжы затрымалі 33-гадовага егера аднаго з памежных паляўнічых гаспадарак. Гэты грамадзянін, мінуючы мытныя пасты, перавозіў на ўласным аўтамабілі "Аўдзі-100" 700 метраў кантрабанднай тканіны. Аўтамабіль як сродак перамяшчэння кантрабанды быў узяты пад варту, а пасля далейшых вышуковых мерапрыемстваў і быў знойдзены падпольны склад, дзе захоўваўся тавар на 80 млн. 100 тыс. рублёў.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

8

верасень

**СЕРАДА**
Усх. 6.31 Зах. 19.43
Даўж. дня 13.12
Апошняя квадра
6 жніўня

**490 гадоў** з дня Аршанскай бітвы паміж войскамі Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы (1514), адной з буйнейшых бітваў у Еўропе ў пач. XVI ст., перамогу ў якой атрымала войска Вялікага княства Літоўскага

Чытайце нас у Інтэрнеце http://nv.promedia.by

## Среда, 8 сентября

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12,00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 23.20** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 20.00** "Деловая жизнь".
**09.05, 20.05 "Возвращение Мухтара".** Сериал.
**10.05** "Арсенал".
**10.30, 17.05** "Путешественники холодных морей". Док.сериал.
**11.05, 18.15 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10 "Кларисса".** Драма.
**14.05** "Зона Х".
**14.15** "На перекрестках Европы".
**15.15 "Команда "SOS".** Сериал.
**16.05** "5х5".
**17.30** "Кстати".
**19.05** "Спасатели".
**19.30** "Здоровье".
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Белые крылья над Ист-Ривер". Видеофильм АТН.
**22.05** Хоккей. Кубок мира-2004. Четвертьфинал.

### ОНТ

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.05** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05 "Клон".** Сериал.
**09.55, 18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**10.45** "Не только о футболе".
**11.05** "Дисней-клуб".
**16.00 "Женщины в любви".** Сериал.
**16.55** "Пять вечеров".
**20.00** "Время".
**21.00 "Черный ворон".** Сериал.
**22.05 "Диверсант".** Сериал.
**23.20** "Кремль-9". "Дворцовые тайны".

### РОССИЯ

**07.45, 19.55 "Каменская-3".** Сериал.
**08.45, 16.50 "Ундина-2. На гребне волны".** Сериал.
**09.45, 18.50** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50 "Бедная Настя".** Сериал.
**11.50** "Что хочет женщина". Ток-шоу.
**16.20** "Кулагин и партнеры".
**17.50 "Марш Турецкого".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**21.00 "Красная капелла".** Сериал.
**22.00** "Вести+".
**22.20** "Корейский рубеж. Тайны великих вождей". Док.фильм.
**23.15** "Народный артист".
**23.25 "Алмазы шаха".** Детектив.

### ЛАД

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.45** Новости.
**08.10** "Мир вашему дому". Духовная беседа.
**08.20** "Оркестровая яма". Ток-шоу.
**09.00** "Острова".
**09.45, 17.55 "Шестеро неутомимых".** Сериал.
**10.45** Мультфильмы.
**11.05, 18.55 "За кулисами".** Сериал.
**11.55** "Обычный необычный день".
**12.25 "Ваш специальный корреспондент".** Драма.
**14.10** "Ностальжи".
**14.35** "Могок, долина рубинов". Док.фильм.
**15.30** "Не зевай!".
**15.40** "Бум".
**16.05** "Страна Оркестрия". Мультфильм.
**16.20 "Нежный возраст".** Сериал.
**16.45** "Художники". Док.сериал.
**17.15** "Грант".
**17.30** "Площадь искусств".
**19.45** "Дела семейные".
**20.30** "Колыбельная".
**21.00** "Апокриф".
**21.40** "Эпизоды".

### НТВ

**09.00, 15.00, 18.00, 23.30** "Сегодня".
**09.15** "Преступление в стиле модерн".
**09.45** "Женский взгляд".
**10.15** "Растительная жизнь".
**10.55, 18.40 "Улицы разбитых фонарей-6".** Сериал.
**15.20** "Принцип домино".
**16.25 "Таксист".** Сериал.
**17.35** "Криминальная Россия".
**19.50 "Место под солнцем".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.40 "Секс в большом городе".** Сериал.
**22.15, 23.45 "Каффс".** Боевик.

### СТВ+RenTV

**06.20, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.35** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.05, 20.10** "Минск и минчане".
**08.15, 23.10** "Технология".
**08.25, 20.35** "Автопанорама".
**08.45** "Закон и криминал".
**09.00** "Рыцари света". Мультсериал.
**09.25, 16.00** Мультфильмы.
**09.35 "Кровь за кровь".** Боевик.
**11.10** "Дикая планета". Док.фильм.
**12.00** "Час суда".
**12.45** "Горячий лед".
**13.00** "Акцент на время". Док.фильм.
**13.50, 18.30 "Конференция маньяков".** Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или Оборотень приближается". "ОБЖ, или Обрывки нежности".** Сериал.
**15.35** "Маска". Мультсериал.
**16.15** "Тема дня".
**16.50** "Игровой рефлекс".
**17.00 "Зачем тебе алиби?".** Сериал.
**18.15** "Здравствуйте, доктор!".
**20.20** "Добрый вечер, малыш".
**20.55 "Убрать Картера".** Триллер.
**23.20** "Проект "Отражение".
**00.05 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.50** "Новости СНГ".

### 8-Й КАНАЛ

**07.00, 16.45 "Старая крепость".** Сериал.
**08.10, 17.50, 19.40** "Телемагазин".
**08.15** "Классика Уолта Диснея". "Постреляты". Мультфильм.
**09.15** "К-игра".
**09.20** "Сокровища". Док. сериал.
**09.40, 19.50 "По имени "Барон".** Сериал.
**10.30, 21.05 "Форрест Гамп".** Драма.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Под полярной звездой".** Сериал.
**19.35** "К-видео". "Топ-8".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...

### ТВ ЦЕНТР

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Антон Иванович сердится".** Комедия.
**09.15** "Московские крыши".
**09.40** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "Песочные часы".
**11.40** "Доходное место".
**11.50** "Квадратные метры".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.30** "Мода non-stop".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Каля-маля".
**16.00 "Комиссар Мулен".** Детектив.
**17.15** "Русский век".
**18.00 "Таковы эти женщины".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Соседка".** Драма.
**21.40** "Версты".
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.40** "Супердиск".
**00.00 "По закону".** Сериал.
**00.50** "Синий троллейбус".

### EUROSPORT

**09.30** FMX. Мотокросс. Фристайл. Соревнования в Испании.
**11.00** Спидвей. Кубок мира в Англии.
**12.00** Футбол. Кубок мира в Германии. Квалификационный круг.
**14.00** Конный спорт. Кубок Наций "Самсунг" в Венгрии.
**15.00, 18.15** Теннис. US Open.
**16.00** Велоспорт. Тур Испании.
**00.00** Футбол. Кубок мира в Германии. Спецобзор.
**02.15** Новости "Евроспорта".

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 570 экз. Заказ № 727.